# С. Р. Р. Б.



## НАРОДНЫ КАМІСАРЫЯТ АСЬВЕТЫ.

**Асноўныя прынцыпы арганізацыі працоўнай 7-мёх гадовай школы.**

Сямёхгадовая працоўная школа, якая стала зараз на мейсца „двуступянёвай школы", мае мэтай даць агульную асьвету. Гэта асьвета мае быць **скончанай** для большасьці маладых грамадзян (што па тых ці іншых варунках не падымуцца вышэй у асьвеце) і **падгатоўчай** для тых, што пойдуць у тэхнікумы.

Але гэтая сямёхгадовая школа павінна захаваць і замацаваць усе тыя адзнакі, якія паставіла на сваім штандары «адзінная працоўная школа».

Наша «сямёхлетка» зрабілася ад новай рэформы больш адзіннай, цэльнай (ня дзеліцца на ступені), не пакідаючы быць працоўнай. Савецкая школа прайшла ўжо тую стадыю свайго разьвіцьця, калі ідэю **працы** разумелі ў вузкім сэнсе слова, як школу рамяства. Да школы першага пэрыоду магчыма было прыстасаваць словы брэменскага пэдагога Ганзбэрга: „Калі да ўсіх школ будуць дададзены майстэрні і вучні, апроч ранца з кніжкамі, пачнуць насіць яшчэ скрынку з інструмэнтамі, школа ўсё-ж такі застанецца «школай вучобы», а ня «працы».

Ідэя **жыцьцёвасьці**—вось што перш за ўсё адзначае працоўную школу. Тут жывая праца супроць кладзецца мёртвай, схолястычнай, кніжна-славеснай вучобе.

Самы матар'ял заняцьця бярэцца з жыцьця, з прыроды. Магчыма сказаць, што цэнтральным прадмэтам зьяўляецца **прыродаведаньне** ў шырокім сэнсе гэтага слова.

Сюды трэба ўключыць і чалавека ў яго адносінах да прыроды. Такія дыстыпліны, як фізыка, хімія, мэтэоролёгія, геаграфія, батаніка, зоолёгія, фізыолёгія чалавека, тэхнолёгія, або аддзелы гэтых дыстыплін, павінны займаць у школе выдатнае месца. Веданьне рэчаў павінна папераджаць веданьне слоў.

Жыцьцёвая па зьместу школа зьяўляецца разам з тым і жыцьцёвай па мэтах навучаньня.

Заместа адрывачнага веданьня, ня прыстасаванага да жыцьця, працоўная школа лічыцца з рэальнымі ўмовамі будучай чыннасьці сваіх выхаванцаў і йдзе ўровень з патрэбамі грамадзянства.

Патрэбнасьць **псыхолёгізацыі**—вось другая адзнака новай школы. Гэта знача, што выкладаньне павінна прыстасавацца да асобнасьцяў псыхолёгіі вучняў. Па гэтаму

прынцыпу вучня цікавіць толькі тое, што датыча яго жыцьця, усё тое канкрэтнае, што абкружае яго. Толькі паступова, прывучыўшы да працы, зацікавіўшы працай магчыма дайсьці і да абстрактных пытаньняў.

Экскурсійны мэтад аб'яднае псыхолёгізацыю і жыцьцёвасьць. Пры выкладаньні прыродазнаўства гэты мэтад здаўна ўжо ўвайшоў у жыцьцё, але й гуманітарныя навукі павінны карыстацца гэтым-жа мэтадам. Ажыўляюць гэтыя навукі так сама драматызацыя, сьпевы і г. д.

**Праца і актыўнасьць**—вось яшчэ грунтоўны прынцып школы, які дае характэрны выгляд новаму выхаваньню. Уся арганізацыя школы павінна грунтавацца на самадзейнасьці, актыўнасьці вучняў. Сучасная школа ёсьць школа **дзейнасьці**, а выхаваньне, якое яна дае, ёсьць практычнае выхаваньне.

Вомонтарыстычная псыхолёгія падкрэсьлівае, што толькі тое, што прайшло праз маторныя (загадываючыя рухам) цэнтры чалавечага мозгу, моцна адзначаецца й застаецца ў псыхіцы. Вопытныя дасьледы сьведчаць аб тым, што дзіця добра запамінае толькі тое, што прапануецца яму ў форме мускульнай актыўнасьці,—ці будзе гэта гульня ці сур'езная праца. Але пра-

ца павінна мець напрамак творчасьці. Формы працы бываюць розныя. Ручную працу магчыма разглядаць толькі, як адну з гэтых формаў. Кожная праца, дзе толькі выяўляецца актыўнасьць вучня (выработваньне розных неабходных рэчаў, самаабслужваньне школы, пісаньне твораў, сачэньне пагоды, выданьне школьнай часопісі, удзел у школьным спэктаклю і г. д.) будзе займаць пачэснае месца ў школе. Гульня ў першыя гады навучаньня павінна панаваць над сур'ёзнай працай. Гэта будзе паўпраца--паўгульня.

Мэтад **паказны** (лепка, маляваньне, выразаньне, клеяньне) пераходзе ў вышэйшых клясах у лябараторны мэтад; праца вучня робіцца болей і болей незалежнай, болей і болей **творчай**. А творчасьць ёсьць вянец выхаваньня.

Напрамак працы залежыць ад мясцовых умоваў. У вясковай школе самадзейнасьць вучняў выяўляецца ўдзелам у земляробскіх працэсах і ў працы ў гародзе, садзе, на полі, у даглядзе жывёлы і г. д. Гарадзкая школа мае іншы матар'ял: машынная прамысловасьць, праца на фабрыках і заводах. Але сказанае не азначае, што школа будзе мець нейкі прафэсійны характар. Не прафэсія, а выхаваньне мэта

агульна-асьветнае школы. Тэхнічныя і інтэлектуальныя элемэнты будучага чалавека-грамадзяніна павінны гарманічна зьліцца ў адно суцэльнае. Агранамічна мысьлячы селянін і інтэлігэнтны гараджанін—вось хто павінен выйсьці ў жыцьце са школы вясковай і мястовай.

4) Ідэя **сацыяльнага выхаваньня**—чацьвёртая асобнасьць новай школы. Працоўны пачатак прызнаецца як фактар грамадзянасьці ў вучнях. Удзел у агульных таварыскіх апрацаваньнях таго ці іншага матар'ялу, выступаньне ў поле, на экскурсію грамадой, талакой, сьвядомасьць, што адзін зробіць таго, што можа зрабіць грамада—вось матар'ял для сацыяльнага выхаваньня.

Нарэшце, трэба сказаць аб параўняючай свабодзе школьных парадкаў. На месца старых аўтарытэтаў, балаў, кандуітаў і г. д. кладзецца моцна арганізаваная дысцыпліна, якая грунтуецца на пачуцьці адказнасьці за свае праступкі. Удзел у абслужваньні школы—абавязак кожнага выхаванца. Удзел у школьных камітэтах, гуртках, агульных пасяджэньнях дадуць школу **парадку й дысцыпліны**.

Асоба настаўніка мае вялікае значэньне ў працоўнай школе. Настаўнік павінен мець энцыклёпэдычную адукацыю; разам

з тым ён павінен мець шырокія палітычныя погляды. Каб кіраваць жывым арганізмам школы, настаўнік сам павінен быць актыўным працаўніком—арганізатарам з сьвядомасьцю свайго сацыяльнага абавязку.

**Прыкладны плян прадметаў 7-х гадовае працоўнае школы.**

| Назвы прадметаў. | I. | II. | III. | IV. | V. | VI. | VII | Усяго. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прыродазнаўства (з біолёгіяй) . . . | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | 26 |
| Матэматыка. . . | 2 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 5 | 28 |
| Родная мова й літэратура | 6 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 32 |
| Грамадзянск. навукі й гісторыя. . . | — | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 18 |
| Мастацтва . . . | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 21 |
| Фізычнае выхаваньне . | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 21 |
| Географія . . . | 3 | 3 | 3 | 4 | 3 | 3 | 2 | 21 |
| Фізыка . . . | — | — | — | — | — | 2 | 2 | 4 |
| Ня родная мова . . | — | — | — | 3 | 4 | 4 | 4 | 15 |
| Рамяство (фізычная праца) . . | — | — | 2 | 2 | 2 | 3 | 3 | 12 |
| Мовы заходнія . . | — | — | — | — | 3 | 3 | 3 | 9 |

**Увагі:** 1) Роднай, або матчынай мовай за-

вецца мова, на якой павінны выкладацца ўсе прадметы.

2) Мовы ня родныя выкладаюцца з IV году навучаньня.

3) Факультатыўна выкладаецца музыка, сьпевы, мовы заходнія і г. д. Мовы заходнія з V году па 3 гадзіны ў тыдзень на кожную.

---

Дзяржаўн. Выдавецтва Беларусі (Гіз № 330—2500
Менск 1921 г.

1 С. д. з. № 6440—3279—2500.

